# Конрад Бабятынскі

## Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)



Кніга прысьвечана гісторыі ваеннага канфлікту, у выніку якога восеньню 1655 году амаль уся тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага разам са сталіцай Вільняй была занятая войскамі цара Аляксея Міхайлавіча.

Ваенныя дзеяньні 1654-1655 гадоў вяліся галоўным чынам на тэрыторыі полацкага, віцебскага, менскага, наваградзкага і берасьцейскага ваяводзтваў. Іх распачала аблога разьмешчанага каля межаў сёньняшняй Беларусі Смаленску. Найважнейшыя бітвы летняй 1654 году і зімова-веснавой кампаніі 1655 году разыграліся на Дняпры і Друці — спачатку пад Шкловам і Шапялевічамі, а потым пад Новым Быхавам і Магілёвам. Агонь вайны не пашкадаваў таксама іншых важных беларускіх гарадоў — Полацку і Віцебску, Менску і Наваградку, Слуцку і Старога Быхава.

Конрад Бабятынскі (нар. у 1977 г. у Варшаве) — выпускнік Гістарычнага інстытуту Варшаўскага ўнівэрсытэту (2001); кандыдат гістарычных навук (2006). Зь лістапада 2006 — дацэнт аддзяленьня мадэрнай гісторыі Гістарычнага інстытуту Варшаўскага ўнівэрсытэту. Аўтар кніг «Ад Смаленску да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масквой 1654-1655», а таксама «Міхал Казімер Пац — ваявода віленскі, гетман вялікі літоўскі. Вайскова-палітычная дзейнасьць» (Варшава, 2008). Выдаў некалькі дзясяткаў навуковых артыкулаў. Стыпэндыят Фонда польскай навукі (2005, 2006, 2010) і DAAD (Бэрлін, 2007). Займаецца гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага ў XVII ст., гісторыяй старапольскай вайсковай справы (XVI-XVII ст); адносінамі Рэчы Паспалітай з Масквой у другой палове XVII стагодзьдзя.